# наша свабода

№124(211) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

16 ЛІСТАПАДА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Міністр фінансаў здаў лукашэнкаўскую «заначку»

*Міністр фінансаў Беларусі Мікалай Корбут афіцыйна пацвердзіў, што Аляксандр Лукашэнка хавае ў «Беларусбанку» грошы, атрыманыя ад продажу зброі.*

Сенсацыйная заява міністра прагучала ўчора падчас ягонага прадстаўлення ў Палаце прадстаўнікоў бюджэту на 2002 год. Па словах М.Корбута, сродкі, якія дзяржава атрымлівае ад рэалізацыі гэтак званых спецматэрыялаў міністэрства абароны – «танкаў і іншага ўзбраення» – трапляюць у «Беларусбанк», на рахункі **«рэзервнага фонду прэзідэнта»** і «стабілізацыйнага фонду» для забеспячэння надзейнасці валютных укладаў грамадзянаў ва ўпаўнаважаных банках. Міністр пацвердзіў, што сродкі з гэтых фондаў не фігуруюць **«ні ў якім артыкуле бюджэту».**

Апошнія словы азначаюць, што А.Лукашэнка фактычна прысвоіў грошы, якія належаць народу Беларусі. Не вельмі істотна, як называюцца фонды, дзе акумулююцца гэтыя сродкі – «стабілізацыйны», «рэзервны» або, напрыклад, «на забеспячэнне шчаслівай старасці былым прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь». Важна тое, што цалкам адсутнічае справаздача як па паступленнях гэтых грошай на рахункі, так і па расходаванні іх.



Народ мусіць верыць на слова Лукашэнку і ягоным памагатым, што грошы з «прэзідэнцкага рэзерву» нікуды не ідуць, што беларускі кіраўнік не набывае на іх выспы ў Атлантычным акіяне, лімузіны для сябе і свайго атачэння і г.д. Але ці даў яму народ права такім чынам распараджацца нашымі грашыма?

Памер сродкаў, заробленых на продажы зброі, дакладна невядомы. Аднак А.Лукашэнка аднойчы ў запале передвыбарчай агітацыі назваў суму ў мільярд долараў. Мільярд – гэта насамрэч вельмі шмат. Калі проста падзяліць яго на дзесяць мільёнаў беларускіх жыхароў, то атрымаецца 100 долараў на кожнага. Не вельмі шмат – але істотна. Многія беларусы не зарабляюць і столькі на месяц.

Дэмакратычная сістэма пабудовы ўлады, якая дэкларуецца ў Беларусі, прадугледжвае кантроль за дзейнасцю выканаўчай улады з боку заканадаўчай і судовай. Выканаўчая ўлада – гэта прэзідэнт, ягоная адміністрацыя, урад і «вертыкаль». Усё, што яны робяць, мусіць кантралявацца парламентам. Канешне, парламент у Беларусі спецыфічны і амаль спрэс прызначаны – паводле асабістай адданасці А.Лукашэнку. І механізмаў кантролю за дзейнасцю прэзідэнта ў яго практычна няма.

Адным з нешматлікіх правоў, што засталіся Нацыянальнаму сходу ў спадчыну ад Вярхоўнага Савета, было права кантролю дзяржаўных фінансаў. Дэпутаты пакуль яшчэ мусяць зацвярджаць (або нават не зацвярджаць) дзяржаўны бюджэт – поўны і дакладны каштарыс даходаў і выдаткаў краіны.

Але цяпер пацвярджаецца, што побач з нацыянальным бюджэтам, якім карыстаецца ўся краіна, існуе і бюджэт паралельны – «прэзідэнцкі». І сфармаваны ён дзякуючы продажу маёмасці, якая належыць беларускай дзяржаве. Здавалася б, калі маёмасць была дзяржаўная – дык і грошы за яе мусяць быць дзяржаўныя, пакладзеныя ў нацыянальны бюджэт, па артыкуле «Даходы».

Але насамрэч аказалася інакш. Грошы засталіся ў кішэні «пасярэдніка». Калі яго схапілі за руку, то яму давялося прызнаць – канешне, маўляў, гэта народныя грошы, я ж толькі для надзейнасці іх прыхаваў.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Іван Пашкевіч, які і звярнуўся да Мікалая Корбута з запытам: «Дзе грошы?», можа цяпер быць супакоены. Грошы «знайшліся». Не стане ж былы намеснік кіраўніка лукашэнкаўскай адміністрацыі ініцыяваць у Палаце прадстаўнікоў справу аб імпічменце свайму былому патрону? Гэта ў іншых, сапраўды дэмакратычных краінах за такую «заначку» прэзідэнта адхілілі б ужо ад улады – маўляў, дзяржава – гэта табе не жонка, каб ад яе хаваць грошы. У Беларусі ж дзяржава разглядаецца як уласная хата.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Урад ухваліў падаражэнне мяса і малака

Да канца года ў Беларусі адбудзецца чарговае павышэнне цэнаў на прадукцыю жывёлагадоўлі.

Як паведаміў 14 лістапада на прэс-канферэнцыі намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Мікалай Папкоў, мяркуецца, што закупачныя цэны на асноўныя віды прадукцыі жывёлагадоўлі — малако, свініну і ялавічыну — узрастуць прыкладна ў 1,5 раза. Колькі будуць каштаваць мяса і малако ў магазінах пасля плануемага павышэння закупачных цэнаў, у кіраўніцтве мінсельгасхарчу сёння сказаць не могуць.

Цяперашнія цэны на прадукцыю жывёлагадоўлі не задавальняюць сельскагаспадарчых вытворцаў, паколькі не пакрываюць выдаткаў, і ў выніку жывёлагадоўчая галіна сёння нерэнтабельная па ўсіх відах прадукцыі. Для параўнання М.Папкоў назваў Расію, дзе, паводле яго словаў, малако каштуе ў два разы даражэй, чым у Беларусі. Праўда, што тычыцца цэнаў на мяса, то яны ў Беларусі і Расіі зараз прыкладна аднолькавыя.

**Аляксей АРЭШКА**

## БНФ рыхтуецца да з'езда

17 лістапада партыя БНФ і БНФ «Адраджэньне» склікае пазачарговы Сойм. Асноўным пунктам парадку дня мусіць стаць падрыхтоўка да чарговага з'езда Фронту 15-16 снежня.

Намеснік старшыні БНФ Вячаслаў Сіўчык гаворыць, што для яго асабіста «прынцыпова важным з'яўляецца ўстанаўленне квоты для Маладога Фронту. «Менавіта Малады Фронт праявіў сябе найбольш актыўна і цвёрда ў Курапатах, а лідэр «МФ» знаходзіцца цяпер у зняволенні» (незарэгістраваная маладзёжная арганізацыя, старшыня якой – намеснік старшыні БНФ Павел Севярынец з 12 лістапада адбывае 17,5 сутак адміністратыўнага арышту за антыфашысцкі пікет 26 кастрычніка і абарону Курапатаў. – **Рэд.**)». Для мяне гэтае пытанне – палітычнае і прынцыповае, і я абавязкова падтрымаю справядлівыя патрабаванні «МФ», каб ім увялі дадатковыя квоты», — заявіў В.Сіўчык.

«Больш за тое, я лічу, што перад з'ездам арганізацыя мусіць вызначыцца з важнейшымі дакументамі, якія будуць прымацца на форуме. І для мяне асабіста галоўным вынікам з'езда мусіць быць прыняты план канкрэтнай дзейнасці, бо, відавочна, калі мы не здолеем перабудаваць сваю працу, то і БНФ, і ўсю апазіцыю ўвогуле чакае не вельмі зайздросны лёс», — заявіў Вячаслаў Сіўчык.

**Рыгор БУЯН**

## «Пагоня» будзе змагацца

14 лістапада адбыўся сход калектыву рэдакцыі гродзенскай газеты «Пагоня». На ім было вырашана, што калектыў захавае адзінства, будзе дамагацца адмены незаконнага рашэння суда аб закрыцці і пачне падрыхтоўку нагляднай скаргі, а таксама дакументаў на рэгістрацыю новай газеты, у назве якой ужывалася б слова «Пагоня». Як паведамілі супрацоўнікі газеты, апошнімі днямі рэдакцыю скаланае не толькі з-за судовых рашэнняў, але і ў сувязі з выхадам са строю камп'ютэраў, што, як лічыць рэдактар газеты Мікалай Маркевіч, таксама выклікана пабочным умяшаннем. Тым не меней, электронная версія газеты працягвае выходзіць.

У інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАН Мікалай Маркевіч сказаў, што мае намер звярнуцца з адкрытым лістом у самыя высокія міжнародныя арганізацыі, у парламенты і да прэзідэнтаў Расіі, ЗША, Польшчы, Украіны, Літвы. У лісце ён расскажа аб факце расправы над незалежнай газетай. «Мы зыходзім з таго, што гэта не толькі плявок у твар 10 супрацоўнікам «Пагоні» ці 10 тысячам яе чытачоў, але і плявок у твар цывілізаванаму міжнароднаму супольніцтву. Беларускія ўлады чакаюць рэакцыі», — сказаў Маркевіч.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## «Артикль 19» отстаивает «Пагоню»

Всемирная кампания за свободу слова «Артикль 19» обратилась к Александру Лукашенко с требованием немедленно прекратить травлю журналистов и создания условий для деятельности негосударственных СМИ. Вот текст обращения, отправленного на имя белорусского руководителя:

«Уважаемый Александр Григорьевич,

«Артикль 19», Всемирная кампания за свободу слова, очень обеспокоена известием о закрытии гродненской негосударственной газеты *«Пагоня»* в соответствии с решением Высшего Хозяйственного Суда Беларуси от 12 ноября 2001 г.

Согласно полученной нами информации, данное решение было вынесено на основании двух предупреждений, полученных газетой от Госкомпечати и прокуратуры г. Гродно. Первое предупреждение было получено газетой 17 ноября 2000 г. за публикацию информации от имени незарегистрированной организации «Гродненская инициатива».

Окончание на стр.3

## Беларусь – закрытое общество

### *Интервью НАШАЙ СВАБОДЗЕ бывшего заместителя министра иностранных дел Беларуси Андрея Санникова*

***– Недавно Вы были на конференции NATO, которая проходила в Риге. Чему была посвящена эта конференция, и кто там представлял Беларусь?***

– Это была конференция латвийской Трансатлантической организации. Она называлась «Членство Латвии в *NATO*, укрепление стабильности и безопасности в регионе». Почему она происходила? Потому, что сейчас страны Балтии заявили о своем стремлении и желании стать членами *NATO*. В Праге в следующем году в ноябре состоится Саммит государств *NATO*, и должно быть принято решение о дальнейшем расширении.

Конференция собрала достаточно серьезный круг участников. С латвийской стороны участвовали министр иностранных дел и министр обороны, представители государств-соседей Латвии. Конференция была посвящена всем возможным аспектам вступления Латвии в члены *NATO*.

Латвийская сторона говорила о том, что сделано в этом направлении, какая реформа вооруженных сил была проведена для того, чтобы соответствовать стандартам – чтобы вооруженные силы могли взаимодействовать с другими вооруженными силами стран-членов *NATO*.

Окончание на стр.3

## Беларусь – краіна бедная

Сусветны банк робіць выснову, што Беларусь – бедная краіна. Гэткай лічыцца дзяржава, дзе адзін жыхар траціць на жыццё меней за 1 долар. Па беднасці наша краіна побач з Афганістанам, Індыяй, Інданезіяй, сярод краінаў СНД – з Украінай і Малдовай.

## У калгасе працаваць небяспечна

Больш за ўсё людзей на вытворчасці сёлета загінула ў сельскай гаспадарцы. Тут здарылася 83 такія смерці. У параўнанні з мінулым годам паболела трагедыяў на працы са смяротным зыходам на прадпрыемствах сістэмы міністэрстваў прамысловасці, сувязі, транспарту і канцэрна «Белнафтахім». Што да рэгіёнаў, то па смерцях на працы лідзіруюць Міншчына, Віцебшчына і сталіца.

## Масавыя скарачэнні абутнікоў

На Лідскай абутковай фабрыцы чакаюцца масавыя скарачэнні працоўных. Пад звальненне падпадуць блізу 300 чалавек. Зараз прадпрыемства плаціць ім каля 7 мільёнаў рублёў за прастой. Сёлета штат фабрыкі ўжо паменеў на болей як сто чалавек.

## «Халява» сканчаецца

Як паведаміў міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксандр Мількота, насельніцтва Беларусі ў 2004 г. будзе аплачваць 80% коштаў карыстання жыллём. Сёння беларускія грамадзяне аплачваюць толькі 20% ад кошту камунальных паслугаў.

## 200-ыя ўгодкі І.Дамейкі

Міжнародная канферэнцыя ЮНЕСКО ў Парыжы прыняла рашэнне шырока адзначыць у наступным годзе 200-я ўгодкі вядомага навукоўца Ігната Дамейкі, ураджэнца Беларусі. Ягонае імя ўключанае ў спіс славутых людзей свету. І.Дамейка – вядомы географ і геолаг, нацыянальны герой Чылі. У сталіцы гэтай краіны Санцьяга стаіць помнік Дамейку.

## Дзіцячае свята чыгункі

15 лістапада ў Мінску прайшло дзіцячае свята з дня нагоды 130-годдзя Беларускай чыгункі. Дзецям быў паказаны спектакль пра царэўну, да якой не могуць прыехаць залётнікі, бо ў каралеўстве няма чыгункі.

### НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1540**

## Вучыў іншых ды супрацівіцца сам

Самы тытулаваны раней з цяперашніх фермераў на Брэстчыне — былы старшыня Пружанскага райвыканкама Сяргей Тарасевіч — адмовіўся ад свінагадоўлі і ўтрымання малочнай фермы па галандскай тэхналогіі, як загадзя стратных ва ўмовах дзярждыктату. 49 гектараў сельгасугоддзяў, арандаваных пад праграму развіцця жывёлагадоўлі, вернутыя ім уладзе. Зараз фермерская гаспадарка арыентуецца на перапрацоўку «чужой» сельгаспрадукцыі і асваенне выпуску новых відаў тавараў. Чыноўнік, які прымушаў землякоў у калгасах жыць з зямлі, закруціў, як гаворыцца, лейцы асабістага інтарэсу ў бок больш камерцыйнай справы. Ён гаворыць пра намер набыць частку акцыяў кансервавага завода, каб правесці ягоную мадэрнізацыю і выракляць прадукцыю ў дробнай фасоўцы. На гэта ёсць попыт у Расіі. Ад Польшчы фермер пераймае досвед садаводства на 11 гектарах. З паўднёвай Малдовы плануе завозіць сухія віны для разліву на месцы. Раўніва да гэтай вольнасці былога «шэфа» раёна ставяцца не толькі старшыні калгасаў, але і шарагова працаўнікі. У чыноўніка — годны капітал і праца на выбар, а ў іх — граматы за ягоным подпісам...

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

**ТЭХНІКА**

## «МАЗ-МАН» будуць прадаваць за межы СНД

Па выніках продажу цяжкіх грузавікоў за 9 месяцаў 2001 года сумеснае беларуска-германскае прадпрыемства «МАЗ-МАН» увайшло ў першую тройку лідэраў сярод вядучых сусветных аўтавытворцаў, якія працуюць на рынках краінаў СНД.

Сёння прадпрыемства «МАЗ-МАН» значна пашырыла наменклатуру выпускаемай прадукцыі. Створаны седлавы цягач для працы ў паўночных раёнах і машына з колавай формулай 6Х4, выракляюцца таксама самазвалы і універсальнае шасі. Першапачаткова планавалася, што СП будзе выпускаць толькі седлавыя цягачы для рэалізацыі на рынках краінаў СНД. Зараз жа прынятае рашэнне аб пачатку продажу грузавікоў «МАЗ-МАН» на рынках краінаў за межамі Садружнасці.

**Аляксей АРЭШКА**

## На «чарніла» грошай хапае

У Брэсцкай вобласці павялічыўся аб'ём продажу танных спіртных напояў. Паводле звестак абласнога ўпраўлення статыстыкі, за 9 месяцаў гэтага года спіртных напояў рэалізавана на 79,1 мільярда рублёў. У параўнальных цэнах гэта на 11,6% больш, чым за адпаведны перыяд 2000 года. У той час як скараціўся продаж гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў (на 6,2%), часцей сталі купляцца танныя айчынныя віны, за кошт чаго і дасягнуты рост аб'ёму рэалізацыі спіртных напояў.

Пры прагнозе росту агульнага тавараабароту ў вобласці на 5,2% рост за 9 месяцаў склаў 10%. Удзельная вага рэалізацыі алкагольных напояў у абароце раздробнага гандлю — 15,7%. Апрача спіртнога, у магазінах больш сталі купляць рыбы і морапрадуктаў, рэалізацыя якіх узрасла на 63,1%. Рэалізацыя рыбных кансерваў узрасла на 50,8 працэнта. На 29% скараціўся продаж натуральнага чаю, на 11,6% — мясных кансерваў. У параўнанні з мінулым годам скараціўся продаж тавараў працяглага карыстання — веласіпедаў, мапедаў, пральных машын, халадзільнікаў і маразільнікаў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

**СУД**

## «Амаралка»

Актывісту руху «Зубр» Андрэю Аляхновічу на прайшоўшым 14 лістапада паседжанні раённага суда Крупак, куды ён звярнуўся з адмысловым іскам, адмоўлена ў аднаўленні на працы.

«Зубровец» быў звольнены са школы, дзе працаваў сацыяльным педагогам, з фармулёўкай «за амаральныя паводзіны». Пад гэтым разумелася распаўсюджванне сярод вучняў незалежных газет і апазіцыйных налепак.

## Беларускую мову — у камп'ютэрныя праграмы

Кіраўніцтва ТБМ накіравала прэзідэнту Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Міхаілу Мясніковічу прапановы па падтрымцы беларускай мовы ў камп'ютэрных праграмах. У лісце адзначаецца, што работа з дакументамі і тэкстамі, а таксама арганізацыя дакументаабароту ў любой сферы немагчымая без адпаведных камп'ютэрных праграмаў: «Арганізацыя электронных базаў дадзеных, архіваў і абароту дакументаў на сучасным узроўні немагчымая, пакуль няма лінгвістычнай падтрымкі нацыянальнай мовы ў адпаведных праграмах». ТБМ вядомыя некаторыя тэхналагічныя рашэнні, прапанаваныя аматарамі. Сярод іх — праграмы арфаграфічных карэктараў беларускай мовы для трох тэкставых рэдактараў, стварэння электронных слоўнікаў і лінгвістычнай падтрымкі пры сканіраванні беларускамоўных тэкстаў.

**Марат ГАРАВЫ**

**БУДАЎНІЦТВА**

## Развалілася архітэктура

Абвяргае нібыта наступальную статыстыку будаўніцтва ў рэгіёнах сумны факт сыходу ў неаплачвальныя адпачынкі ўсяго складу архітэктурнага бюро ў Маларыце. Установа на гаспадарчым разліку не мае перспектывы атрымліваць дастаткова заказаў, каб прыбытку ад праектаў хапала дойлідам на зарплату, арэнду і ацяпленне памяшкання.

Але гэта не перашкаджае «вертыкалі» збіць план па ўводзе жылля. Калі верыць дадзеным Брэсцкага аблвыканкама аб выкананні пастановы Саўміна №103 ад 18.12.2000 г. «Аб праграме жыллёвага будаўніцтва ў 2001 годзе», то за тры кварталы раёны забяспечылі ўвод жылля ажно на 131,8% да задання. Аднак 162 дамы (кватэры) былі выкупленыя калгасамі як пустуючыя і толькі 64 кватэры пабудаваныя жыллёва-будаўнічымі кааператывамі з выкарыстаннем банкаўскіх крэдытаў. Баранавіцкі, Камянецкі і Бярозаўскі раёны не маюць сродкаў нават на дапамогу людзям перасяліцца на кінутыя сядзібы памерлых аднавяскоўцаў.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

**ЛЮСТРАФАКТ**




Да 9 мая далёка, паспеем успомніць...

## Расследаванне трагедыі на вінзаводзе

У судзе Чыгуначнага раёна Гомеля прыпыненае слуханне крымінальнай справы па абвінавачанні майстра Гомельскага вінаробнага завода Тамары Чакан у парушэнні правілаў аховы працы, што выклікала па неасцярожнасці смерць чатырох рабочых прадпрыемства.

15 ліпеня гэтага года чацвёра рабочых завода загінулі, атруціўшыся вуглякіслым газам, пасля таго як адзін з іх паспрабаваў ачысціць ёмістасць для адстою сокаў ад жмыху, а тры іншыя — яго выратаваць.

Аднак 14 лістапада падчас судовага паседжання эксперты адмовіліся ад сваіх першапачатковых высноваў. Так, эксперт упраўлення Камітэта па інспекцыі працы Юрый Зуеў паведаміў суду, што «неабходнасці лезці ў чатырохметровую ёмістасць не было», і слесар, які першым спусціўся туды без ведама майстра Чакан, сам парушыў правілы тэхнікі бяспекі. Пракурор хадайнічала аб прызначэнні дадатковага даследавання.

**Ірына ШАНЦАВА**

**КУЛЬТУРА**

## Аднаўленне краязнаўчага таварыства

14 лістапада створаны аргкамітэт па аднаўленні Беларускага краязнаўчага таварыства (БКТ). Такое рашэнне прынялі ўдзельнікі навукова-практычнага семінара «Беларускае краязнаўства: стан і перспектывы», які 14 лістапада прайшоў у Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Францішка Скарыны.

Як зазначыў намеснік дырэктара Скарынаўскага цэнтра, кандыдат гісторыі Віталь Скалабан, у канцы 1980-х гадоў было створанае Беларускае краязнаўчае таварыства, якое не было афіцыйна зарэгістраванае. «Сёння адчуваецца неабходнасць рэанімацыі таварыства, якое павінна сканцэнтравацца на праблемах гісторыі краязнаўства, падрыхтоўцы вучэбных праграмаў, дапамог і выданняў», — зазначыў Скалабан. Мяркуецца, што з'езд па аднаўленні БКТ будзе скліканы вясною 2002 года.

**БелаПАН**

## Канфлікт праз РНЕ

Прадстаўнік Беларускай музычнай альтэрнатывы ў Гродне Андрэй Мялешка заявіў аб прыпыненні дзейнасці філіі. Шэраг гарадзенскіх гуртоў, сярод якіх такія вядомыя, як «Кальян» і «*Deviation*», адмовіліся супрацоўнічаць з БМА. Канфлікт пачаўся з-за таго, што Беларуская музычная альтэрнатыва запрасіла прыняць удзел у сваім новым праекце «*Hard life - heavy music*» гурт «*Apraxia*», адзін з удзельнікаў якога ў інтэрв'ю заявіў, што належыць да «сур'ёзнай нацыянал-сацыялістычнай арганізацыі». На думку А.Мялешкі і музыкантаў гарадзенскіх гуртоў, такой арганізацыяй можа быць РНЕ.

**Д. Ягораў**

**ЗДАРОЎЕ**

## Не хочаце хварэць — вакцынуйцеся

Кожны год у Беларусі на грып хварэюць ад 5 да 12% насельніцтва. Прыкладна раз у 2-3 гады бываюць эпідэміі, калі грыпам хварэюць да 20% жыхароў. Такія звесткі 14 лістапада на прэс-канферэнцыі ў Мінску прывёў галоўны эпідэміёлаг міністэрства аховы здароўя Анатоль Кажамякін.

Паводле яго словаў, за апошнія 30 гадоў самым цяжкім можна назваць 1999 год, калі грыпам перахварэлі 1 млн. 5 тыс. чалавек. За апошнія шэсць гадоў у Беларусі ад грыпу памерлі 59 чалавек, у прыватнасці ў 1999 годзе — 15, у 2000 годзе — 5. Таксама галоўны эпідэміёлаг міністэрства аховы здароўя зазначыў, што захворванне на грып наносіць значныя эканамічныя страты.

Што тычыцца прафілактыкі грыпу, то, паводле парады медыкаў, у барацьбе з вірусам не варта забываць і пра народныя сродкі. Аднак асноўным сродкам прафілактыкі інфекцыйных захворванняў з'яўляецца актыўная імунізацыя насельніцтва. Паводле словаў спецыялістаў, імунітэт выпрацоўваецца ўжо на другі тыдзень пасля вакцынацыі і захоўваецца на працягу цэлага года.

**Маша ПЯТРОВА**

## Талончыкі даражэюць не толькі ў Мінску

З 13 лістапада падаражэў праезд у грамадскім транспарце Брэста. З гэтага дня разавы талон для праезду ў аўтобусе і тралейбусе каштуе 80 рублёў, у вадзіцеля — 90 рублёў.

Паводле інфармацыі ўпраўлення транспарту Брэсцкага гарвыканкама, неабходнасць у павышэнні кошту праезду ўзнікла даўно. Затраты на 1 кіламетр прабегу па аўтобусных перавозках склалі 545 рублёў пры даходах 310, па тралейбусных — 517 пры даходах 300,2 рубля. Павышэнне кошту праезду, на думку спецыялістаў, не пакрые ўсе выдаткі, аднак крыху знізіць нагрузку на бюджэт.

У першым паўгоддзі бягучага года на фінансаванне расходаў па набыцці і капітальным рамонце транспартных сродкаў Брэста накіравана 247,6 мільёна рублёў. Гэта толькі трэцяя частка ад атрыманага горадам транспартнага збору, у той час як у цяперашняй сітуацыі да 60% фактычных затратаў транспартных гаспадарак павінны пакрывацца з бюджэту, лічаць спецыялісты. Яны таксама адзначаюць, што тралейбусны і аўтобусны паркі маюць патрэбу ў аднаўленні саставу, паколькі сярэдні знос наяўных аўтобусаў і тралейбусаў складае, адпаведна, 73 і 58%.

**БелаПАН**

**ВОЙСКА**

## Армейскія шэрагі парадзеюць

Да 2006 года Узброеныя Сілы Беларусі будуць скарочаныя на 18 тысяч чалавек. Пра гэта БелаПАН паведаміў часова выконваючы абавязкі начальніка ўпраўлення кадраў міністэрства абароны рэспублікі палкоўнік Аляксандр Цапота. На 1 студзеня 2006 года, у адпаведнасці з планам завяршэння фарміравання, колькасны склад Узброеных Сіл будзе скарочаны да ўзроўню 50 тысяч салдат і афіцэраў і 15 тысяч чалавек грамадзянскага персаналу (сёння агульная колькасць Узброеных Сіл — 83 тысячы чалавек). Разам з тым, паводле словаў Аляксандра Цапоты, «усе, хто хоча служыць, — служыць будуць». Рэфармаванне, паводле яго словаў, азначае «ў першую чаргу, арганізацыйна-штатныя мерапрыемствы, скіраваныя на аптымізацыю армейскіх структураў, зніжэнне расходаў на іх утрыманне, павышэнне кіруемасці баявых падраздзяленняў, вырашэнне сацыяльных праблемаў ваеннаслужачых».

А.Цапота паведаміў, што цяпер фактычна завершаная кампанія па заключэнні кантрактаў міністэрствам абароны з афіцэрамі Узброеных Сіл. Не пажадалі заключыць кантракт каля 500 ваеннаслужачых, або 3,3% ад агульнай колькасці афіцэраў. Яшчэ 1.500 афіцэраў часова не заключылі кантракт з прычыны праводзімых арганізацыйна-штатных змяненняў.

За апошнія 10 месяцаў, у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам мінулага года, зменшылася на 40% колькасць афіцэраў, якія пакінулі Узброеныя Сілы па ўласным жаданні.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**



**ЭКАЛОГІЯ**

## Псуюць пушчу караеды

Галоўная парода дрэваў у Белавежскай пушчы — елка, якая займае да 60% усяго масіву самага старога лесу Еўропы, зноў апынулася пад нападам караеда-тыпографа. Гэты невялікі жук памерамі да 5 міліметраў амаль усё сваё жыццё праводзіць пад карой, даючы два пакаленні ў адно лета колькасцю ад 10 да 24 маладых жукоў на адным дэцыметры ствала.

Па заканамернасці, выяўленай шведскім біёлагам С.Аранісам, прыкладна адзін раз на кожныя 90 гадоў для караеда ў Еўропе складваюцца асабліва спрыяльныя ўмовы размнажэння. Тады ў лесе ўзнікае «пажар без агню» — дрэвы становяцца рыжымі, як падпаленыя. І хаця ў прыроды існуюць спосабы самакантролю, напрыклад, у 1921 годзе ўлады Польшчы вымушаныя былі заключыць дамову з англійскай дрэваапрацоўчай фірмай «Сенчары» на высечку ў Белавежскай пушчы вялікіх участкаў пашкоджанага ельніку, што затым працягвалася 2,5 года.

Звіняць пілкі ў пушчы і зараз. Беларускі бок заручыўся нават падтрымкаю сумеснага вучонага савета супрацоўнікаў Нацыянальнага парку і польскімі калегамі. Зацверджаная рэзалюцыя аб радыкальным метадзе супраціву лясному шкодніку. Праўда, ні польская, ні беларуская грамадскасць не могуць кантраляваць зараз ходу экалагічнай акцыі. А вядома, што высякаць трэба толькі шчыльна «нашпігаваныя» караедам елкі, ад кляймення дрэва да ягонай высечкі павінна праходзіць усяго 2-3 дні. Ад чалавека зараз патрабуецца толькі дапамога, а не канкурэнцыя з караедам.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Беларусь – закрытое общество

## *Интервью НАШАЙ СВАБОДЗЕ бывшего заместителя министра иностранных дел Беларуси Андрея Санникова*

*Окончание, начало на стр.1*

Выступали политики, аналитики, общественные деятели. Говорили о последствиях, которые могут быть в связи с этим актом.

Представитель России достаточно интересно расставил оценки, говоря о том, что членство Балтии в *NATO* не представляет угрозы для России, не является вызовом, и что вообще ситуация настолько изменилась, что это не имеет такого уж большого значения. Это заявление было неожиданно, потому что знаем, что Россия категорически возражает до сих пор против вступления в *NATO*.



***– Затрагивалась ли каким-то образом белорусская ситуация на этой встрече?***

– Я был одним из выступающих и, конечно, говорил о нашей ситуации и о том, что у нас кардинально противоположная ситуация, чем у наших соседей – Латвии.

Кстати, показательно, что когда был предложен законопроект по Беларуси в комитете Сената США по иностранным делам, в этот же день было принято решение Североатлантического альянса о поддержке стран Балтии в их вступлении в *NATO*. Это показатель того, как далеко мы разошлись, находясь географически рядом и имея общие границы.

Обсуждалось, безусловно, событие 11 сентября в Соединенных Штатах. Там, кстати, отмечалось, что Лукашенко пытается использовать это – для того, чтобы, якобы участием в антитеррористических коалициях пытался легитимизировать свое правление здесь в Беларуси.

***– Насколько я понимаю, это не особенно вводит в заблуждение наших соседей из стран Балтии и вообще Европейское сообщество?***

– Оценка того, что происходит в Беларуси, у них однозначная. Но в свете изменившейся ситуации вот эти попытки, в общем-то, в заблуждение не вводят, но привлекают внимание.

Потому что неожиданно слышать от белорусских представителей готовность стать членами *NATO*. Но потом эта неожиданность сменяется иронией – потому что понятно, что это зависит прежде всего от позиции России, никакой самостоятельности в этом нет.

***– Затрагивались ли в этой связи вопросы продажи оружия диктаторским террористическим режимам, которые освещались в сообщениях информационных агентств, в нашей и зарубежной прессе?***

– Сама конференция была посвящена прежде всего Латвии и возможного членства Латвии в *NATO*. Но отмечалось, насколько нестабильна и непредсказуема ситуация в Беларуси, насколько она закрыта от глаз общественности, что такие вещи происходили довольно долго, и только сейчас информация об этом стала появляться.

***– Вы затронули вопрос о внесении в комитет по иностранным делам Сената США проекта закона о демократии в Беларуси. Как Вы его расцениваете?***

– Этот законопроект пока существует в качестве законодательного предложения. Он расценен как подтверждение позиции Соединенных Штатов – не только администрации, но и Конгресса. То есть я расцениваю так, что Конгресс и Сенат достаточно хорошо отслеживали события в Беларуси, и, в общем-то, были попытки наладить контакты с Лукашенко. И поскольку белорусская сторона официально не идет ни на какие изменения в своей политике, то появился вот такой жесткий документ. Я считаю, что это подтверждение политики Соединенных Штатов.

***– Как это соотносится с европейской политикой – когда звучат заявления из Страсбурга, из Брюсселя о том, что политика изоляции режима не дала никаких результатов, поэтому необходимо её прекратить и начать сотрудничать?***

– Мне такие заявления непонятны, потому что о каких контактах и о каком вообще сотрудничестве с Лукашенко можно говорить, когда всплывают все новые и новые факты неприглядной деятельности белорусских властей?

Во-первых, все больше фактов по причастности властей к исчезновению людей. Во-вторых, идет информация не просто о торговле оружием, а о торговле с теми группировками и странами, которые поддерживают террористов. А еще, я уверен, мы можем узнать, что конкретно поставлялось, потому что есть совершенно определенные запреты на поставки не только в определенные страны, но и на поставки определенных товаров.

Как можно сейчас говорить о сотрудничестве, когда на эти вот факты белорусские власти должны дать конкретный ответ – не обычные свои ответы о провокационной деятельности, а конкретный ответ – было это или нет? И нужно убедиться, насколько ответ достоверен. Поэтому я думаю, что смягчать позицию просто невозможно, потому что после 11 сентября понятно, что недемократические режимы виновны в том, что произошло, так как подпитывают это.

***– Шел ли разговор на этой конференции о терроризме, о взаимодействии в борьбе с ним?***

– Безусловно. В общем-то, вся конференция касалась темы, что после 11 сентября встал вопрос о защите демократических ценностей. Возможное членство стран Балтии в *NATO* также будет способствовать защите этих ценностей. И как раз защита ценностей демократии, цивилизации и ставится во главу угла при любых разговорах о борьбе с терроризмом. Понятно, что белорусские власти не укрепляют, а подрывают эти ценности, поэтому они абсолютно выпадают из этого процесса.

**Интервью брал**
**Павел КРЫЛЬСКИЙ**

ПАМЯЦЬ

# Заява беларускіх археолагаў

*Беларускія археолагі выступілі з заявай, у якой сцвярджаюць, што ва ўрочышчы Курапаты знаходзяцца пахаванні ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў. Вучоныя бралі ўдзел у працы ўрадавых камісіяў 1988 і 1993 гадоў па расследаванні фактаў выяўлення ва ўрочышчы чалавечых астанкаў.*

Археолагі выказваюць занепакоенасць тым, што на працягу апошніх гадоў дзяржаўныя СМІ актыўна навязваюць грамадству думку аб пахаванні ў Курапатах ахвяраў фашысцкіх расстрэлаў перыяду Другой сусветнай вайны. Пры гэтым ніхто не змог падвергнуць сумненню адназначнае афіцыйнае заключэнне ўрадавай камісіі 1988 года аб Курапатах як месцы масавага знішчэння людзей органамі НКУС БССР у 30-я-40-я гады. «Гэтыя высновы грунтаваліся не толькі на паказаннях больш чым 200 сведкаў, але і на матэрыялах некаторых даступных для камісіі архіваў, на выніках эксгумацыі пахаванняў і на крыміналістычных экспертызах (кронаскапічным даследаванні, судова-медыцынскім вывучэнні касцявых астанкаў, даследаванні манет, куль, гільзаў, тэхнікі зубнога пратэзавання, надпісаў, знакаў клеймавання на асабістых рэчах забітых і г.д.)», — гаворыцца ў заяве. «Больш таго, — зазначаюць яго аўтары, — пры эксгумацыі адной з магілаў былі знойдзеныя не толькі рэчавыя доказы часоў правядзення расстрэлаў, але і ўпершыню ўстаноўленыя некаторыя прозвішчы забітых людзей».

Вынікі следства 1997-1998 гадоў, ініцыіраванага некаторымі грамадскімі арганізацыямі, па незразумелых прычынах дагэтуль невядомыя грамадству. У гэтым археолагі бачаць спробу «наўмыснага ўтойвання новай інфармацыі і разам з тым — яшчэ аднаго пацвярджэння злачынстваў НКУС у Курапацкім урочышчы».

Заяву падпісалі Мікола Крывальцэвіч, Алег Іоў, Андрэй Мяцельскі, Валянціна Вяргей, Лявон Калядзінскі, Міхась Чарняўскі, Віктар Кудрашоў і Аляксандр Мядзведзеў. Яны з'яўляюцца аўтарамі шэрагу публікацыяў па выніках даследаванняў у Курапатах, а таксама членамі групы па распрацоўцы ахоўнай зоны і канцэпцыі стварэння нацыянальнага мемарыяла ў Курапатах.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць на сайце ініцыятывы — *www.ngo.unibel.by/BEL/KURAPATY*

**БелаПАН**



# Лекарам забаранілі сумяшчаць працу

Зь лістапада дактарам і навуковым супрацоўнікам Інстытута анкалёгіі забаранілі сумяшчаць працу. Як вынік, заробкі мэдыкаў амаль удвая зьменшыліся. Неўзабаве з гэтым давядзецца сутыкнуцца іншым мэдычным работнікам.

Інстытут анкалёгіі стаў першай мэдычнай установай, дзе дактарам забаранілі сумяшчаць працу, а значыць, пазбавілі дадатковых заробкаў. Адпаведны загад за подпісам дырэктара інстытута Іосіфа Залуцкага зьявіўся напачатку лістапада.



У міністэрстве аховы здароўя тлумачаць, што гэткія захады ўзялі ў адпаведнасьці з новым Працоўным кодэксам, дзе адзначана, што работнікам, чыя праца зьвязаная са шкоднымі ўмовамі, забараняецца сумяшчальніцтва. Гэтым дзяржава нібыта клапоціцца пра здароўе дактароў.

Між іншым, ня толькі анколягі, але й мэдыкі розных спэцыяльнасьцяў (нэўрахірургі, радыёлягі, анэстэзіёлягі ды іншыя) працуюць у шкодных умовах і нават атрымліваюць за шкоднасьць малако. Ня выключана, што за Інстытутам анкалёгіі падобная навіна зьявіцца і ў іншых мэдычных установах. Як удалося высьветліць, адпаведны загад ужо падрыхтаваны ў НДІ радыяцыйнай мэдыцыны.

Беларускія мэдыкі заўжды атрымлівалі вельмі нізкія заробкі, таму вымушаныя былі працаваць на паўтары, а то й на дзьве стаўкі. Дактары Інстытута анкалёгіі падлічылі, што цяпер будуць губляць штомесяц каля 50 даляраў, а працы, мяркуючы па ўсім, менш ня стане. Адна з супрацоўніц інстытута кажа:

(Супрацоўніца: ) «Мы й так мала зарабляем. Нам усё роўна давядзецца выконваць тую ж работу: хворага ж не пакінеш, але заробкі будзем атрымліваць значна меншыя. Прыкладна на 50 тысяч рублёў менш будуць атрымліваць мэдычныя сёстры. Дактары яшчэ больш губляюць — напрыклад, загадчыца нашага аддзяленьня губляе 89 тысяч... Тое, што мы ўсё роўна будзем выконваць сваю працу, нікога не хвалюе. Дрэнна нам усім».

У міністэрстве аховы здароўя спрабавалі выправіць такое становішча і зьвярнуліся зь лістом у адміністрацыю Лукашэнкі. Аднак адтуль прыйшоў адказ, што падобныя нормы ўвялі ў адпаведнасьці з заканадаўствам, і таму праблема, маўляў, невырашальная. Лукашэнка не падтрымаў і прапанову мэдыкаў выдаць адмысловы прэзыдэнцкі дэкрэт, які б дазволіў мэдыкам сумяшчаць працу.

У міністэрстве аховы здароўя кажуць, што выправіць сытуацыю можа толькі значнае падвышэньне заробкаў мэдыкам. Відаць, гэта наўрад ці адбудзецца. Агульная сытуацыя ўскладняецца тым, што ў краіне застаецца вялізная запазычанасьць па заробках — на 31 кастрычніка гэтая лічба склала 40 мільярдаў рублёў.

**Вольга РЫМАШЭЎСКАЯ**
**Радыё «Свабода»**

# «Артикль 19» отстаивает «Пагоню»

*Окончание, начало на стр.1*

Второе предупреждение газета получила 21 сентября 2001 г. (после начала судебной процедуры против газеты) за серию статей (в выпуске №36 от 4 сентября 2001 г.) о существующей возможности фальсификации результатов президентских выборов. В помещении типографии сотрудниками милиции был изъят весь тираж данного выпуска. Это дело не нашло поддержки со стороны Госкомпечати из-за отсутствия правовых оснований для закрытия газет.

Данное действие последовало вслед за периодом травли сотрудников газеты КГБ в период подготовки к президентским выборам. Во время якобы имевшей место попытки завербовать журналиста «*Пагоні*» в августе, по имеющейся у нас информации, сотрудник КГБ сказал: «Хотя закрытие газеты не входит в компетенцию КГБ, но на это есть соответствующие органы». Впоследствии редактор газеты «*Пагоня*» Николай Маркевич был вызван в прокуратуру г. Гродно, где ему сообщили о том, что «*Пагоня*» будет закрыта.

Основанием для данных двух предупреждений стали пункты 8 и 9 статьи 5 Закона о печати, запрещающие распространение сведений, порочащих честь и достоинство Президента, и публикацию информации от имени незарегистрированных организаций. Оба пункта данной статьи противоречат международным обязательствам, взятым на себя Беларусью в соответствии со Статьей 19 МПГПП (Международного Пакта о гражданских и политических правах), провозглашающей право каждого на свободное выражение своего мнения, которое включает в себя «свободу искать, получать и распространять всякого рода информацию и идеи независимо от государственных границ устно, письменно или посредством печати...». Международное законодательство допускает наложение ограничений на свободу слова лишь в очень узко очерченных обстоятельствах, в случаях, когда эта мера является абсолютно необходимой в демократическом обществе. Действие же данного закона явно выходит за рамки этих ограничений.

Более того, принимая во внимание тот факт, что Госкомпечати поставил под сомнение оправданность прекращения деятельности газеты, закрытие средства массовой информации является неадекватной мерой в соответствии с международным законодательством, так как серьезно ограничивает возможность общественности получать информацию.

Дополнительное вмешательство в работу негосударственных СМИ в Беларуси порождает атмосферу страха, что не позволяет СМИ выполнять свою функцию, состоящую в выражении существующих в обществе различных точек зрения, а также подавляет альтернативные мнения.

Мы призываем правительство Беларуси незамедлительно прекратить все формы травли журналистов, предпринять необходимые шаги для отмены действия неадекватного закона о СМИ и активно содействовать созданию условий для процветания деятельности негосударственных СМИ.

**С уважением,**
**Эндрю ПАДДЕФАТТ,**
**Исполнительный директор»**

# Конкурс на лепшы праект мемарыяла ў Курапатах

Грамадская ініцыятыва «Моладзь у абарону Курапатаў» абвясціла аб складзе журы конкурсу на лепшы праект мемарыяла ў Курапатах.

У журы ўвайшлі доктар гісторыі Анатоль Грыцкевіч, археолагі Мікола Крывальцэвіч і Алег Іоў, святар Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы айцец Леанід Акаловіч, намеснік старшыні Партыі БНФ Вячаслаў Сіўчык, прэс-сакратар Маладога Фронту Аляксей Шэін, актывіст Кансерватыўна-хрысціянскай партыі – БНФ Рыгор Кійко, лідэр незарэгістраванай арганізацыі Малады Фронт Павел Севярынец, прадстаўнік незарэгістраванага аб'яднання беларускай моладзі «Еўрапейскі шлях» Аляксей Фралоў, а таксама члены незарэгістраванай «Беларускай партыі свабоды» Алесь Гетман і Сяржук Высоцкі.

Нагадаем, што конкурс будзе праходзіць у тры этапы. Спачатку эскізы праектаў будуць накіроўвацца ва ўправу Партыі БНФ (Варвашэні, 8) на разгляд журы. Затым аўтары прадставяць макеты праектаў і, нарэшце, іх тэхнічнае абгрунтаванне. Журы мяркуе падвесці вынікі конкурсу да пачатку 2002 года. Каменціруючы абвяшчэнне конкурсу, прэс-сакратар Маладога Фронту Шэін выказаў спадзяванне, што «падзеі вакол Курапатаў абудзяць цікавасць творчай інтэлігенцыі да праблемы ўвекавечання памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсій». «Мы лічым, што помнік ва ўрочышчы павінны стварыць людзі, для каго Курапаты маюць асаблівае значэнне», – сказаў ён.

**БелаПАН**

# Новы ксёндз Пермскай парафіі

У Санкт-Пецярбургскім касцёле Успеньня Прачыстае Дзевы Марыі, што на першай Чырвонаармейскай вуліцы, адбылася ўрачыстая цырымонія пасвячэння ў прэсвітары (другая ступень святарства) беларускага паэта, дыякана Сяргея Сурыновіча. Пасвячаў архіепіскап Тадэвуш Кандрусевіч. Цырымонія сталася не толькі вельмі святочная, але і мела трошку экзатычных фарбаў, бо ў алтары касцёла знаходзіліся два вазоны з вялікімі пальмамі, а ў служэнні архіепіскапу дапамагаў ксёндз-афрыканец. Прысутнічалі прадстаўнікі беларускай дыяспары на чале з Валянцінам Грыцкевічам. Падчас цырымоніі карысталіся рускай мовай, але пасля заканчэння абрадавых таямніц малады прэсвітар звярнуўся са словамі падзякі да сваіх (прысутных на цырымоніі) бацькоў на роднай – беларускай – мове. Архіпастыр усіх расейскіх каталікоў (ён родам з Гродна) таксама сказаў некалькі цёплых словаў па-беларуску. Месцам будучага служэння маладога святара вызначаны самы ўсходні прыход еўрапейскай Расіі. На ўспамін аб урачыстасці піцерскія беларусы сфатаграфаваліся з Сяргеем Сурыновічам і падаравалі яму копію беларускага каталіцкага (лацінкай) малітоўніка, выдадзенага ў Расійскай імперыі ў 1835 годзе.

***P.S.*** Самы ўсходні каталіцкі прыход у еўрапейскай Расіі знаходзіцца ў Пярмі.

**А.Н.**

# Эканамічны «лікбез»

Лідскія ўлады, падлічыўшы сёлетнія вынікі ў эканоміцы, схапіліся за галаву. Амаль палова прадпрыемстваў горада скарацілі выпуск прадукцыі. Агулам у дзяржбюджэт не заплачана 1 мільярд 200 мільёнаў рублёў. А гарадскі бюджэт да канца года выкананы не будзе, лічаць спецыялісты. Адна з асноўных прычынаў — зменшыўся экспарт. Лідскія прадпрыемствы былі арыентаваныя пераважна на Расію. Гарадскія эканамісты перакананыя, што прадукцыя лідчукоў робіцца ўсё болей неканкурэнтаздольнай на расійскім рынку. Прычына — на паверхні. Гэта — высокі сабекошт прадукцыі. Чаму высокі? Таму што прадукцыя энергаёмістая, і дарагія энерганосьбіты, а таксама — вялікія падаткі і мытныя пошліны.

Аб сітуацыі ў Лідзе на мінулым тыдні дакладваў старшыня гарвыканкама У.Малец. Гэта было на нарадзе, на якую прыязджаў сам А.Лукашэнка. Удзельнікі не ведалі, пры дапамозе якіх эўфемізмаў растлумачыць высокаму госцю корань эканамічных праблемаў. Усім відавочна, што ў дзяржаве ўсё залежыць толькі ад аднаго чалавека. Як ён скажа, так і будзе. Але для чыноўнікаў было важна не пакрыўдзіць начальніка, пагатоў яго не ўзлаваць. Напрыклад, старшыня аблвыканкама У.Саўчанка выказаўся наступным чынам: «У цяперашні час не спрыяе падвышэнню канкурэнтаздольнасці прамысловай прадукцыі існуючая фінансава-крэдытная сістэма». Замест таго, каб сказаць напрасткі — ваша эканамічная палітыка, Аляксандр Рыгоравіч, робіць нашу прадукцыю непакупной.

Абласны галава тлумачыў з трыбуны галоўнаму эканамісту краіны і іншыя прапісныя ісціны. Напрыклад, нагадаў аб жаданні стварыць свабодную эканамічную зону «Гроднаінвест»: «Мы разлічваем на вашу дапамогу і падтрымку, Аляксандр Рыгоравіч, паколькі гэта дазволіць прыцягнуць замежны капітал, нарасціць аб'ёмы прамысловай вытворчасці, павялічыць экспартны патэнцыял». Атрымаліся тлумачэнні амаль у стылі — «вот это стул, на нём сидят, вот это стол, за ним едят». Атрымліваецца, што сапраўды ўсяго гэтага не разумее галава краіны. Паколькі свабодная эканамічная зона «адкрываецца» ўжо гадоў пяць.

На нарадзе Лукашэнка пачуў і аб іншых сумных выніках яго эканамічнага цуда. Напрыклад, былыя саюзныя прадпрыемствы, якія даўно выкарыстоўваюць толькі частку сваіх плошчаў і абсталявання, працягваюць плаціць дзяржаве за гэтыя, не патрэбныя ім, лішкі. Далей. Вобласць вылучаецца «высокім узроўнем вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі». Аднак, па выніках сёлетняга года, па словах У.Саўчанкі, «на жаль, чакаюцца страты» ад гэтай галіны. Як можна спалучаць «высокі ўзровень» і страты? Аказваецца, што можна. А што тады гаварыць пра іншыя вобласці, дзе жывёлагадоўля развітая значна горш?

Трэба аддаць належнае, што абласны галава, апроч розных просьбаў да высокага госця, не забыўся папрасіць грошы на культуру. Маўляў, не хлебам адзіным жывыя гродзенцы. Перш за ўсё, патрэбныя сродкі на будаўніцтва абласной бібліятэкі імя акадэміка Я.Карскага, Слонімскага драмтэатра, на рэстаўрацыю Каложы, Мірскага замка і Старога каралеўскага замка ў Гродне, на сядзібу Агінскіх у Смаргонскім раёне. У.Саўчанка папрасіў таксама лукашэнкавых «падтрымкі і апекавання» для Усебеларускага фестывалю нацыянальных культураў — «як сімвала яднання славянскіх і іншых народаў, якія вякамі мірна пражывалі ў Беларусі». Праўда, некаторыя ўдзельнікі гэтага фэсту — карэйцы, грэкі, грузіны — не жылі ў нас вякамі. Але чаго ні зробіш дзеля дружбы народаў!

Каб у Лукашэнкі не знікла жаданне дапамагаць гродзенцам, У.Саўчанка паабяцаў, што яны выканаюць усе рашэнні «другога ўсебеларускага народнага сходу».

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## Даеш сучасныя даілкі

Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі прыняло рашэнне аб арганізацыі на гомельскім прадпрыемстве «Гомельагракамплект» вытворчасці канкурэнтаздольных даільных установак. Пра гэта 14 лістапада на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Мікалай Папкоў.

Паводле яго словаў, вытворчасць даільных установак будзе арганізавана сумесна з нямецкай фірмай «Імпульс». Гэтыя даільныя ўстаноўкі не будуць саступаць па якасці замежным і, апрача таго, будуць на 30-40% таннейшыя за ўстаноўкі, якія імпартуюцца цяпер.

Як паведаміў намеснік міністра, вытворчасць малака ў краіне па выніках 10 месяцаў гэтага года ўзрасла на 11%. У цэлым па выніках 2001 года ў Беларусі надоі малака ў разліку на адну карову могуць скласці да 2,5 тысячы кілаграмаў. Разам з тым, як сцвярджаюць кіраўнікі мінсельгасхарча, патэнцыяльна, пры нармальнай арганізацыі кармлення дойнага статку, можна было б без цяжкасцяў надойваць па 3,5-4 тысячы кілаграмаў малака ад каровы.

**Аляксей АРЭШКА**

# Здаровы лад жыцця на 2002-2006 гады

Савет міністраў Беларусі зацвердзіў Дзяржаўную праграму па фарміраванні здаровага ладу жыцця насельніцтва Беларусі на 2002-2006 гады.

Як паведаміў намеснік галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Беларусі Андрэй Сякач, праграма распрацоўвалася з улікам шэрагу негатыўных тэндэнцыяў стану здароўя грамадзянаў. У аснову праграмы пакладзенае ўцягванне розных катэгорыяў насельніцтва ў аздараўленчы працэс, а таксама арганізацыя вольнага часу, умацаванне здароўя, павышэнне прадукцыйнасці працы, зніжэнне распаўсюджвання курэння і ўжывання алкаголю.

Акрамя таго, перад міністэрствам аховы здароўя пастаўленая задача знізіць узровень захворвання, непрацаздольнасці і смяротнасці ад хранічных захворванняў, стабілізаваць паказчыкі здароўя насельніцтва, палепшыўшы тым самым якасць і працягласць жыцця. Для гэтага плануецца стварыць спецыяльны міжведамасны каардынацыйны савет, які аб'яднае намаганні па фарміраванні здаровага ладу жыцця ў сістэмах аховы здароўя, адукацыі, фізкультуры і спорту, СМІ, органаў дзяржкіравання, а таксама грамадскіх і рэлігійных арганізацыяў.

**БелаПАН**

# Рэабілітацыя забруджаных тэрыторыяў

У Століне праходзіць міжнародны семінар «Рэабілітацыя ўмоваў жыцця на тэрыторыях, забруджаных у выніку чарнобыльскай аварыі: методыка праекта «ЭТОС». Гэты міжнародны праект прадугледжвае актыўнае ўцягванне пацярпелых ад Чарнобыля людзей у працэс кіравання існуючымі радыялагічнымі рызыкамі.

Як паведамілі ў Камчарнобылі, мэтай семінара з'яўляецца прадстаўленне вынікаў праекта «ЭТОС», абмеркаванне перспектываў развіцця супрацоўніцтва па доўгатэрміновай рэабілітацыі забруджаных тэрыторыяў, а таксама разгляд новых метадаў павышэння якасці жыцця ў пацярпелых раёнах. Плануецца, у прыватнасці, абмеркаваць радыялагічную сітуацыю ў вёсках Столінскага раёна, якасць прадуктаў харчавання і паводзіны чалавека ў пацярпелых рэгіёнах, а таксама доўгатэрміновую рэабілітацыю постчарнобыльскіх тэрыторыяў.

На семінар запрошаныя таксама прадстаўнікі Еўрапейскай камісіі, дэпутаты Еўрапарламента, міністэрства энергетыкі Францыі, праграмаў развіцця ААН і ТАСІС, пасольстваў Францыі і Швейцарыі, Сусветнага банка і шэрагу міжнародных арганізацыяў, у тым ліку «Урачы свету» і «Зямля і цывілізацыя».

**Марат ГАРАВЫ**

# Обувать корову в лапти

*В первые послевоенные годы, как рассказывают старые люди, так называлась технология хищения крестьянского личного и колхозного скота разного рода «недобитками», прятавшимися от власти в лесах и болотах. Происходило все достаточно просто: на все четыре коровьи ноги обували лапти, и мясо «само шло» к месту его потребления. Понятно, что при такой маскировке разыскать пропажу или то, что от нее оставалось, было трудно.*



Фота Ул.ШЛАПАКА

А иногда крестьяне, которых власти вынуждали к мясопоставкам по никчемным ценам, сами имитировали похищение, списывая пропажу на лесных братьев. И вот те времена, похоже, вернулись. Крадут и колхозный, и личный скот. Но при наличии автотранспорта прежние ухищрения вовсе не нужны. Причем сами крестьяне опять занимаются «хищениями». Виктор Кучинский даже пытался организовать по этому поводу парламентский запрос правительству. Мол, вывозят бесконтрольно белорусскую скотину в Украину тамошние куркули. А руководители Витебской области вообще запретили вывозить за пределы своего «удельного княжества» непереработанные мясо и молоко. Потому что, мол, крестьяне в основном трех районов (Витебского, Лиозненского и Оршанского) вывезли из области в Россию 11 тысяч тонн молока.

Но таким образом можно приостановить только организованный экспорт. А что касается частников, то они предпочитают продавать скот коммерсантам, которые платят сразу же живыми деньгами. И в этом не остановить ни частника, ни коммерсанта. Поэтому в решении облисполкома ощущается определенная ностальгия по временам, когда крестьянина можно было заставить не только сдать скот государству по выгодной облисполкому цене, но и провести элементарную реквизицию у несознательных элементов.

В то же время из-за пределов «губернии» местные власти запретили ввоз водки, поскольку местный заводишко и торговая сеть затоварились этим продуктом. Оно и понятно, народ обнищал. Не до вина, хватило бы на хлеб с солью. Но тоже интересная и характерная деталь, в которой отражается дух нашего смутного времени и устремления витебских властей. Витебский ликеро-водочный завод расположен на улице Революционной, но производит он напитки под такими старорежимными названиями, как водка «Императрица», «Царская», «Губернская». Поэтому можно понять, что витебские товарищи стоят за единую и неделимую, монархическую и православную империю российскую. Но тогда зачем вполне революционными методами, в духе губчека, закрывать границу товарообмена российскую границу.

Все эти запреты-разрешения, местные пошлины и сборы причиняют народу солидные неприятности. Ведь государственное (общегосударственное?) регулирование цен, тарифов и заработной платы — это краеугольный камень экономической политики правительства. То есть, как утверждают заинтересованные, если его изъять, то и все здание рухнет. Но факты, в их статистической интерпретации, свидетельствуют об обратном. Можно даже предположить, что все здание экономической политики покоится не на «краеугольных камнях», а держится на песке.

Ведь если взять Россию, с ее огромной территорией, различными, совершенно непохожими природно-климатическими и прочими условиями в различных регионах, то понимаешь, почему на Кубани дешевы хлеб и мясо, а на Чукотке моржатина и китовый ус. Но у нас ведь климат повсюду умерено-континентальный, условия хозяйствования одинаковы. Поэтому скот, овощи, фрукты, картофель выращивают везде с одинаковым успехом. Поэтому и цены должны быть примерно одинаковыми, а их неравенство должно устраняться конкуренцией. Если где-то говядина, например, дорога, то загружай свою дешевую в грузовик и вези на тамошний рынок. Получишь прибыль и местные цены собьешь. Но что же мы видим, глядя на ценники в разных городах. В конце сентября говядина стоила от 1.700-2.000 рублей за килограмм в Минске, до 3.000-3.400 тысяч – в Пинске, Витебске, Рогачеве, Молодечно.

В случае с Молодечно, до которого от столицы два часа езды на электричке, нельзя не умиляться. Неужели столичный «коммерсант» не видит, что гораздо выгоднее продавать говядину там, чем сбывать ее «за бесценок» в столице. Или взять, к примеру, Борисов. Здесь свинину продавали примерно по 4.000, а в Минске за килограмм просили всего 2.500 рублей.

Такая же ситуация по картофелю, овощам: в таких «дорогих» городах, как Витебск, Могилев, Борисов и других: они продаются в 2-3 раза дороже, чем в городах более-менее благополучных.

Получается так, что белорусы в том, что касается цен на продовольствие, живут как будто бы в разных странах. Это ощущение усиливает статистика заработной платы. Судите сами, по состоянию на 31 октября, в столице задолженность по зарплате составляла всего 0,1 процента месячного фонда заработной платы, в областях — от 9,3 процента (Минская) до 13,8 (Могилевская). Кроме того, в сентябре средняя зарплата в столице составляла 185 тысяч рублей, а в областях – от 123 тысяч (Брестская) до 141 тысячи (Гомельская). Значит, мало того, что в Минске цены ниже, но и зарплаты более высокие и в целом регулярно выплачиваемые.

Но и это не все. Неблагополучная статистика по областях определяется, прежде всего, тем, что здесь в статотчетность включается и сельское хозяйство. Так вот, в колхозах средняя зарплата в сентябре составляла всего 81 тысячу рублей, в совхозах — 94 тысячи. Но на 31 октября 76 процентов зарплаты в колхозах и 50 процентов — в совхозах (от фонда заработной платы за сентябрь) не выплатили. И получается, что крестьянам за уборочную заплатили разве что бесплатной «шкваркой» на дожинках. То есть их же продуктом, за который им не сочли нужным заплатить.

Если эти проценты пересчитать исходя из количества занятых в отрасли, то получится, что без зарплаты остались практически 9/10 работников. Более полумиллиона человек. А это значит, что деревня практически исключена из сферы товарно-денежного обращения, превращена властями в резервацию, на убытках которой те же власти пробуют сделать профит, запрещая ей торговать с выгодой для себя, а не с этим жадным государством.

Так как крестьянину выжить, если ... в лапти не обувать?

**Константин СКУРАТОВИЧ**

# «Магілёўскі ўхіл» дзяржаўнага бюджэту

Эксперт аналітычнага цэнтра «Стратэгія», намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Яраслаў Раманчук заявіў на прэс-канферэнцыі ў Мінску, што праект бюджэту Беларусі на 2002 год мае яўны «магілёўскі ўхіл». У прыватнасці, паводле яго словаў, паступленні ад падаткаў на даходы (з фізічных асобаў) і прыбытак (з юрыдычных асобаў) практычна стопрацэнтна застаюцца ў распараджэнні Магілёўскай вобласці. У той час як, напрыклад, Гомельская вобласць атрымае 51,3 працэнта (у 2001 годзе — 33 працэнты), а Мінск — 33,3 працэнта (замест 25 працэнтаў сёлета).

Намеснік кіраўніка АГП прывёў і шэраг іншых прыкладаў, якія, на яго думку, прыкметна выдзяляюць Магілёўскую вобласць з агульнага кантэксту рэгіянальнага фінансавання. Пры гэтым у АГП адзначаюць, што рэгіён мае адзін з самых дрэнных паказчыкаў па колькасці стратных прадпрыемстваў, па рэнтабельнасці, па аб'ёму складскіх запасаў і даўгоў перад бюджэтам па падатках, перад пастаўшчыкамі па энергарэсурсах і перад рабочымі -- па зарплаце. «Атрымліваецца, што вобласць не зарабляе грошы, генерыруе даўгі і пры гэтым атрымлівае ўсё больш і больш ільготаў і грошай з рэспубліканскага бюджэту», — заключыў Яраслаў Раманчук.

**Аляксей АРЭШКА**

# Кошт лячэння дыябету

Лячэнне кожнага хворага на цукровы дыябет абыходзіцца сістэме аховы здароўя ў сярэднім ў 600 долараў ЗША. Пра гэта паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення лячэбна-прафілактычнай дапамогі міністэрства аховы здароўя Беларусі Аляксандр Цыбін 13 лістапада на прэс-канферэнцыі, прысвечанай Сусветнаму дню барацьбы супраць цукровага дыябету. Паводле словаў спецыяліста, апошнім часам затраты на лячэнне ўзраслі ў некалькі разоў, паколькі колькасць хворых на цукровы дыябет у Беларусі павялічваецца. Гэта тлумачыцца тым, што дыябет другога тыпу суправаджаецца рознымі мікрасасудзістымі ўскладненнямі, у прыватнасці паражэннем вачэй, нырак і нерваў, а таксама інфарктам і інсультам. Адначасовае лячэнне гэтых відаў ускладненняў павялічвае затраты ў некалькі разоў.

**Вольга АСІПЕНКА**

# Запазычыліся 1 трыльён рублёў

Агульная запазычанасць сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Беларусі набліжаецца да 1,1 трыльёна рублёў. Такія звесткі абнародаваў намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Анатоль Рубанік. Паводле яго словаў, у названую суму ўваходзяць даўгі за энерганосьбіты, па крэдытах, пазыках, працэнтах і г.д. «Без дапамогі дзяржавы выйсці з такога становішча будзе вельмі-вельмі складана», — адзначыў намеснік міністра.

Запазычанасць па заработнай плаце ў сельскай гаспадарцы на сённяшні дзень складае 23 мільярды рублёў. Пры гэтым колькасць стратных гаспадарак у Беларусі працягвае расці. Як паведаміў Рубанік, калі ў 2000 годзе на сяле налічвалася 1.185 стратных гаспадарак (48,2 працэнта), то па выніках 2001 года, паводле папярэдніх звестак, іх колькасць узрасце да 1.400. Адпаведна паменшыцца колькасць прыбытковых сельскіх гаспадарак — з 1.072 у 2000 годзе да 942 па выніках гэтага года.

Ураджай збожжа склаў 5,3 мільёна тон замест запланаваных 7 мільёнаў, аднак, паводле словаў намесніка міністра, дзяржаўны заказ выкананы. Гаворачы пра прычыны недабору 1,7 мільёна тон збожжа, Рубанік паскардзіўся на надвор'е і на страты пры ўборцы. У грашовым выражэнні сума страт такая, што на яе можна было б набыць 2,5 тысячы камбайнаў.

**Аляксей АРЭШКА**

# Рэспубліка мястэчак

*Алесь Чобат – вядомы паэт і публіцыст з самастойным мысленнем. Змест гэтага артыкула складаюць рэфармацыйныя прапановы і псіхалагічныя назіранні аўтара, якія найперш цікавыя тым, што аўтар выступае ў нязвыклай для сябе і знаёмага з яго творчасцю чытача.*

У XIX стагоддзі буржуазныя рэформы ў Англіі ледзь не зайшлі ў тупік з прычыны адсталай прававой сістэмы. У сваю чаргу змяніць тую сістэму было не пад сілу ні міністрам з урада, ні чартыстам з вуліцы. Косткай у горле англійскай дэмакратыі аказаўся яе... парламент, дакладней, прадстаўніцтва ў ім паводле састарэлага адміністрацыйнага падзелу, калі прамысловаму Манчэстэру было роўнае «графства» Корнуэлхаум з насельніцтвам у 3–4 тысячы чалавек.

Рэспубліка Беларусь, што праўда, не жадае сабе ні буржуазных рэформаў, ні сацыялістычных рэвалюцыяў ці – барані Божа! – нацыянальных адраджэнняў. Дый прававая сістэма яе надзвычай простая: жыві па апошнім ўказе і не дуры галавы сабе і людзям.

Тым не менш, менавіта «гнілыя мястэчкі» – нашыя славутыя райцэнтры – душаць яе (разам з Мінскам) яшчэ з савецкіх часоў. Шчасліва перажылі яны «перастройку» з «незалежнасцю», шчасліва спадзяюцца перажыць нават пажыццёвага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку. Іх ніхто не чапаў і не чапае. Ні левыя, ні правыя, ні ніякія. Усе па-мужыцку прызвычаіліся (апошняя адміністрацыйная рэформа была ажно ў 1962 годзе!), што ёсць Хойніцкі раён, Крупскі раён, Астравецкі раён і г. д. Адно толькі кепскае ў той звычцы. Справа ў тым, што нават у 1962 годзе раёны «нарэзвалі» партыйныя арганізацыі, а ўжо потым пад іх «падганялі» раёны.

Такім чынам, ужо тады, сорак гадоў назад, дыспрапорцыя ў насельніцтве асобных раёнаў была заўважнай, а цяпер у выніку міграцыяў і дэмаграфічных зменаў стала катастрафічна заўважнай. Ёсць раёны-карлікі з насельніцтвам літаральна 4–5 тысяч чалавек , а ёсць раёны-гіганты пад 60–70 тысяч чалавек жыхарства. І кожнаму палагаецца такая самая адміністрацыя, папулярна менаваная яшчэ бюракратыяй.

Той раён-карлік, які вечна сядзіць на датацыі, адчувае сябе як маленькая дзяржава ў дзяржаве: свой «бацька», свае міністры ўнутраных справаў, сельскай гаспадаркі, фінансаў, будаўніцтва і нават культуры і адукацыі! І гэта яны – яны, а не мінскія міністры! – «праводзяць лінію прэзідэнта». Скажыце мне, адкуль могуць быць ратацыя кадраў(!), новыя людзі(!) і тым больш нейкія новыя ідэі (!) у «небольшом болоте» гэтак на 3–4 тысячы адных і тых самых жыхароў?!

У тым балоце адно можа быць – разбіцца на тры кланы і грызціся за «ўласьць»...

Другая бяда ў тым, што такое гнілое мястэчка воленс-ноленс удзельнічае ў «ратацыі кадраў» пад самы верх, да мінскіх міністэрскіх кабінетаў. Таму выглядаем так, як выглядаем.

Канешне, мы жывем па-свойску, а цэлы астатні свет не палюдску, таму хай да нас не лезуць. Але нават у «любимой России» колькасць чалавечых душ на адну ніжэйшую адміністрацыйную адзінку альбо раён залежыць ад рэгіёна. Бо адно Растоў альбо Краснадар, а зусім другое Пскоў ці Смаленск. Мы ж свята трымаемся «канстытуцыі 1962 года» – набраў партарганізацыю, маеш райцэнтр.

Трэцяя бяда ў тым, што сістэма «раённых міністэрстваў» нікому не патрэбная па-за самімі «міністрамі», і гэта яна ёсць найбольшым паразітам у дзяржаве. Людзі з дня на дзень «рашают вапросы, каторыя самі жа себе саздают». Для чаго раёну (нават не такому дробнаму) цэлы аддзел культуры ці народнай асветы? Для таго, каб дзяліць бюджэт паміж клубамі і школамі? Ды бюджэт той даўно падзелены! А раз на год «дажынкі» неяк і без райкультаддзела можна адгрохаць, тут хутчэй гандаль і міліцыя больш патрэбныя, а не тая «культура»...

Строга кажучы, шэфу адміністрацыі раёна патрэбныя не болей трох(!) памочнікаў-намеснікаў – і не патрэбныя аніякія аддзелы ці службы. Адзін уласна па адміністрацыйных справах (міліцыя, суд, пабор у войска, ЗАГС, санэпід, землекарыстанне), другі па зборы грошай (падаткі, штрафы), трэці – цэнтралізаваная бухгалтэрыя, якая дзеліць бюджэт на тыя школы, клубы і што там яшчэ ёсць жывога. Вось і ўсё.

Бо гандлем усё роўна займаецца гандаль, энергетыкай – «Белэнерга», а ўсе сельскагаспадарчыя фонды рэальна так і так «дзеліць» не раён, а вобласць, калі не Мінск. Гнілыя мястэчкі патрэбныя адным гнілым гаспадаркам. Каб іх «прыкрывалі», ім «выбівалі», за іх «адказвалі». Больш нікому.

Для сярэдніх краінаў, як Рэспубліка Беларусь, аптымальная колькасць насельніцтва адной адміністрацыйнай адзінкі ніжэйшага ўзроўню (раён, павет, уезд) гэта 80–100 тысяч чалавек. Альбо – такое самае невялікае места. Толькі расселенае на большай тэрыторыі.

Здавалася б, усё проста. А правесці такую рэформу лягчэй... менавіта ў часы «народнага прэзідэнта», чым у часы парламенцкай рэспублікі – там кожны будзе горла драць за сваё балотца. Здавалася б, скароціцца колькасць тых раёнаў з блізка 120 штук да 35–40, а колькасць лішніх адміністрацыйных служакаў не ў тры разы, а, з улікам сказанага вышэй, у 8–10 разоў... Чым гэта кепска цэнтральнаму, дзяржаўнаму бюджэту?! Чым гэта кепска таму самаму насельніцтву (не яго ж «касуюць», а толькі раён!), якое будзе далей ад райцэнтра, але бліжэй да свайго сельсавета (гміны, воласці)?!

Але гэтага не будзе. Бо – хто ў нас у мінскіх кабінетах? Адкуль яны ўсе? Які ў іх спосаб думання? Ды яны па сённяшні дзень не тое што дзяржаўнымі, але цэнтральнымі, сталічнымі людзьмі не парабіліся! Што «свае», што «прыезджыя»! Яны ўсё яшчэ не ў дзяржаве жывуць, а ў нейкай «республике» – так бы мовячы, на правінцыі, на перыферыі. У іх адна Масква ў галаве. Не з Крамлём нават. А з маўзалеем. Дык такі і нежывы вынік.

**Алесь ЧОБАТ**



Фота Ул.ШЛАПАКА

# Призрак 37 года в Солигорске

*В Солигорское отделение БХК поступило заявление очередного ребенка с просьбой оказать правовую помощь.*

Если четыре прежних жалобы были от ребят, подвергшихся гонениям со стороны директоров школ за письмо к президенту, то эта с просьбой к главе государства помочь властям достроить школу вроде бы не связана.

Саша Гулькевич, ученик 8-го класса средней школы №5 г.Солигорска, написал в правозащитную организацию заявление:

«27 октября директор нашей школы В.А.Ястреб вызвала меня с урока белорусского языка в кабинет завуча. В присутствии завуча директор обвинила меня в том, что я изрисовал 26 октября памятник Заслонову во дворе школы. На самом деле я этого не делал. Когда я сказал директору, что ни в чем не виноват, она ударила меня кулаком по лицу и сказала, что если до прихода в милицию я не сознаюсь, потом будет хуже».

Директор увидела на памятнике начертание крамольного в Беларуси слова «Зубр». Ни она, ни другие педагоги, как выяснилось, не видели, чтобы Саша что-то писал на постаменте. В.А.Ястреб просто воспользовалась слухами и, вероятно, поскорее решила отреагировать, дабы не заподозрили ее в том, что она не борется с гордостью Беловежской пущи.

Власти города озабочены тем, что во время президентской кампании солигорская молодежь демонстрировала симпатию к кандидату от демократических сил.

Вероятно, чтобы исправить эту недоработку в воспитании подрастающего поколения, в Солигорске начали «прорабатывать» родителей. Так, по сообщению матерей детей, обучающихся в средней школе №6 (директор Т.П.Теряева), во время родительского собрания в первых классах учителя настоятельно рекомендовали отцам и матерям проводить дома **политбеседы** со своими несмышленышами. **Завести тетрадки, выписывать туда цитаты из речей А.Г.Лукашенко и заучивать их вместе с шести-семилетними отпрысками.** Похожие указания звучат и на родительских собраниях в других школах.

Набирает обороты преследование властями человека, публично заступившегося за них, – председателя солигорской организации ОГП Ларисы Насанович. 10 ноября Лариса Насанович возвращалась в десятом часу вечера домой. Лифт в доме был отключен. Она пошла по лестнице. Между вторым и третьим этажами ее догнал мужчина. Схватил за плечи, потом оттолкнул к стене. «На сей раз пока предупреждаем, – процедил. – Не умеришь пыл в своей бурной деятельности – будет плохо. Думай о детях».

Она и думает. Не только о своих.

**Леонид МАРХОТКО,**
**председатель Солигорского отделения БХК**

# Маёр міліцыі выдумляў абвінавачванні

14 лістапада ў судзе Мінскага раёна быў завершаны разгляд адміністрацыйнай справы намесніка старшыні БНФ Вячаслава Сіўчыка, якая разглядалася ўжо на працягу трох дзён. Ён, як і астатнія прыцягнутыя да суда, абвінавачваўся ў непадпарадкаванні законным распараджэнням або патрабаванням супрацоўніка міліцыі і правядзенні несанкцыянаванага пікета. Аднак падчас суда яго віна не знайшла пацвярджэння. Паказанні аднаго са сведак – маёра міліцыі Генадзя Васілеўскага, які сцвярджаў, што Сіўчык браў актыўны ўдзел у несанкцыянаваным пікеце і не рэагаваў на патрабаванні супрацоўнікаў міліцыі спыніць пікетаванне, супярэчылі паказанням іншых сведак і відэазапісам, прагледжаным на судзе. Таму суддзя Аляксандр Тачкар вымушаны быў спыніць адміністрацыйную справу.

У інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАН Вячаслаў Сіўчык звярнуў увагу на тое, што папярэднія пастановы аб пакаранні ўдзельнікаў акцыі базіраваліся на пратаколах, сфальсіфікаваных, як ён лічыць, супрацоўнікамі Мінскага раённага ўпраўлення ўнутраных справаў, а таксама на хлуслівых паказаннях маёра Г.Васілеўскага. «Я лічу, што ўсе пастановы, у тым ліку аб адміністрацыйным арышце Паўла Севярынца і Фёдра Жывалеўскага, павінны быць перагледжаны», – сказаў Вячаслаў Сіўчык.

У гэты ж дзень суддзя Аляксандр Тачкар пастанавіў падвергнуць штрафу яшчэ двух удзельнікаў акцыі ў абарону Курапатаў – Цімафея Сугаку і Валерыя Буйвала.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# *NATO* и страны Балтии

**Март ЛААР,**
**премьер-министр Эстонии**

*Встреча президента Путина с президентом Бушем в Техасе продемонстрировала, что взаимоотношения двух великих держав перешли на новый уровень. Однако это еще не означает, что вопрос расширения NATO уже решен.*

На протяжении многих веков для того, чтобы выжить, малые народы стремились найти подходящее место в мировом порядке. Одиночество в политике неизбежно приводило к беде. В настоящее время приоритетом внешней политики Эстонии стало обеспечение суверенитета за счет альянса с государствами, придерживающимися сходного мировоззрения.

На протяжении 20 века Эстония пыталась добиться этой цели, но, увы, без особого успеха. Наша попытка избежать конфликта с Советским Союзом до начала Второй мировой войны оказалась дорогой ошибкой, которая привела к десятилетиям оккупации, потере нескольких тысяч жизней и задержке в экономическом развитии.

Десять лет назад мы воспользовались представившимся шансом, чтобы восстановить свою независимость. Эстонии не пришлось долго раздумывать над возможностями выбора, которые стояли перед страной. Чувство принадлежности к Европе, западной цивилизации всегда доминировало в эстонском сознании. Таким образом, приоритеты нашей внешней политики, связанные с членством в ЕС и *NATO*, являются естественным выбором.

Действительно, членство в ЕС и *NATO* – цели, которые дополняют, но не противоречат друг другу. Как заметил Генеральный секретарь *NATO* лорд Робертсон: ЕС и *NATO* – «две половинки одного ореха». Отсутствие наших стран среди членов этих организаций явилось результатом пакта Молотов – Рибентроп (т.е. пакта Гитлер – Сталин), подписанного в 1939 году, и оккупацией стран Балтии Советским Союзом. Это никогда не было свободным выборам эстонского народа. Если бы история развивалась по-другому, мы, возможно, были бы среди первых членов обоих структур.

Тем не менее, наше желание вступить в *NATO* вызывает неодобрение. Почему Балтийские страны стремятся вступить в Североатлантический Союз? Главная причина, на самом деле, скрывается в том же факте, почему ни один из сегодняшних членов альянса никогда не хотел покинуть эту организацию – *NATO* – это основополагающий камень их безопасности.

Хотя на сегодняшний день все страны Балтии интегрированы в международное сообщество, наша безопасность по-прежнему остается причиной для беспокойства. Поэтому мы стремимся усилить безопасность и стабильность в регионе и полагаем, что *NATO* является эффективной структурой, способной максимально обеспечить это. Кроме того, помимо обеспечения безопасности *NATO*, это и экономическая категория. Членство в *NATO* улучшит показатель риска Эстонии среди инвесторов, подобно тому, как это произошло в Польше, Венгрии и в Чешской Республике, когда они вступили в альянс.

Несмотря на эти выгоды, некоторые возражают, что расширение *NATO* в Прибалтику проведет новые границы, разделяющие Европу. Но такой подход подразумевает, что старые границы должны оставаться на своих местах. Более того, никаких границ не проводится. Членство в *NATO* – это свободный выбор государств, стремящихся стать членами, и действующих членов – принимать новых союзников. Никто не может запретить суверенным государствам стремиться стать членами альянса.

И, тем не менее, скептики утверждают, что членство в *NATO* необязательно, что будущее членство в ЕС является достаточным. Конечно, ЕС обеспечивает определенную степень стабильности. Однако ЕС не обеспечивает коллективную безопасность. Так как многие члены ЕС являются одновременно и членами *NATO*, любая угроза безопасности для ЕС в обязательном порядке вовлечет и *NATO*. Таким образом, вступление в обе организации приведет к усилению безопасности и обеспечит прозрачность.

Вторая возможность, которая предлагается странам Балтии вместо членства в *NATO*, – это позиция нейтральной страны, подобно Финляндии и Швеции. Но в сегодняшней Европе нейтралитета в традиционном смысле не существует. *Действительно, по отношению к кому мы должны сохранять нейтралитет?* При таком принудительном нейтралитете страны Балтии рискуют стать *санитарным кордоном* – территорией потенциально спорной или нейтральной полосой, к которой страны Балтии будут отнесены против их воли.

Раздаются голоса, утверждающие, что в случае, если позиция нейтралитета и членство в ЕС не станут жизнеспособными вариантами обеспечения безопасности, мы должны искать гарантии, которые не включают в себя участие в *NATO*. На первый взгляд это звучит многообещающе и даже предполагает бесплатное участие в структурах безопасности. Однако подобные гарантии приведут к тому, что страны Балтии станут объектами, вместо того, что бы стать субъектами международных отношений.

Как историк я хотел бы предостеречь от опасности, которая скрывается в подобных отношениях. В прошлом веке Эстония верила гарантиям безопасности, Финляндия – нет. Финляндия проиграла кровавую войну с Советским Союзом, но сохранила независимость. Мы выбрали мир, но потеряли суверенитет. Сравнивая людские потери Финляндии и Эстонии на протяжении 20 века, становится ясным, что стремление избежать конфликта и приятие гарантий на бумаге привело Эстонию к большим потерям в процентном отношении.

Вот почему наша вера в коллективную безопасность является такой крепкой; вот почему мы осознаем необходимость быть не только потребителями безопасности, но и одновременно обеспечивать ее. Вот уже несколько лет Эстония является участницей различных миротворческих миссий, и хотя наше участие невелико в количественном отношении, в процентном исчислении оно выше, чем у большинства стран. Таким образом, мы являемся частью системы, обеспечивающей безопасность даже до того, как стали ее «потребителями».

Однако, если ответ на вопрос должны ли страны Балтии стать членами *NATO* получен утвердительный, остается вопрос «когда» это должно произойти. Встреча руководителей стран *NATO* в Праге в феврале будущего года станет решающим моментом. Некоторые считают, что такой спорный вопрос должен быть снят с повестки дня. Данный подход кажется прагматичным. Тем не менее, такое отношение подобно откладыванию посещения зубного врача. Проблемы лишь ухудшатся.

Членство в *NATO* стало одним из главных суверенных решений нации. На него не может быть наложено вето третьими странами или геополитическими факторами. Лишить какую-то страну свободы выбора своих альянсов на основе географии и истории приведет к созданию вакуума безопасности. А это означает, что в Европе появиться зона нестабильности.

Расширение *NATO* в страны Балтии потребует от членов альянса решимости и политической воли. С нашей стороны это означает выполнение домашних заданий, чтобы подготовиться к приему в члены *NATO*. Став членами альянса, страны Балтии будут живым свидетельством того, что *NATO* не является сторонником войны и агрессором, но поборником мира, демократии и стабильности.

